*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 33 (521)** **15 ЖНІЎНЯ 2001 г.**


## Рабунак на рабочым месцы Сямёна Домаша

10 жніўня ў памяшканні Гарадзенскага грамадскага аб'яднання "Ратуша" трыма супрацоўнікамі абласнога аддзела па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю Міністэрства ўнутраных спраў быў учыненыператрус. Без адпаведнай санкцыі пракурора міліцыянты, спаслаўшыся на тое, што выконваюць загад намесніка начальніка АБЭП Іосіфа Барташэвіча, незаконна сканфіскавалі ўсю аргтэхніку. Нагадаем, што кіраўнікам "Ратушы" з'яўляецца патэнцыйны кандыдат у прэзідэнты Сямён Домаш, і ператрус быў здзейснены фактычна на яго рабочым месцы.

С. Домаш быў вымушаны паставіць у вядомасць пра здарэнне сакратара Цэнтрвыбаркаму Мікалая Лазавіка. Патэнцыйны кандыдат у прэзідэнты давёў да ведама сп. Лазавіка, што міліцыянты фактычна паралізавалі работу ягонага афіцыйнага сайта, не працуе электронная пошта, спыненая перапіска і г.д. Прычым адбылося гэта ў самы разгар перадвыбарнай кампаніі, усяго за тры дні да рэгістрацыі кандыдатаў у Цэнтрвыбаркаме.

На патрабаванне С. Домаша спыніць беззаконне намеснік начальніка АБЭПа І. Барташэвіч патлумачыў, што "калі ён не мае рацыі, то яго папраўіць пракурор". Аднак, паведаміць, на падставе якіх заканадаўчых актаў дзейнічаюць ягоныя падначаленыя, не здолеў.

У гутарцы з пракурорам Гарадзенскай вобласці Васілём Літвінавым С. Домаш заявіў, што "разглядае дзеянні супрацоўнікаў АБЭП, як самы сапраўдны разбой, рабунак сярод белага дня". Ён таксама выказаў спадзяванне, што парушальнікі закону, тыя, хто спрабуе перашкодзіць ягонай перадвыбарчай кампаніі, панясуць адказнасць ва ўстаноўленым законам парадку".

Нагадаем, што ў апошнія дні ўціск уладаў на С. Домаша і яго паплечнікаў павялічыўся. 8 жніўня праваахоўныя органы зрабілі ператрус у памяшканні Гомельскага грамадскага аб'яднання "Грамадзянскія ініцыятывы", кіраўнік якога, Віктар Карніенка, узначальвае ініцыятыўную групу С. Домаша па Гомельскай вобласці. Быў арыштаваны намеснік кіраўніка ініцыятыўнай групы Віктар Кацора, суд над якім прызначаны на 16 жніўня.

Магчыма, неўзабаве падобныя падзеі адбудуцца ў іншых абласных штабах С. Домаша, што яскрава засведчыць, каго з магчымых прэтэндэнтаў на прэзідэнцкую пасаду найбольш баяцца беларускія ўлады.

**Прэс-група штаба Сямёна Домаша.**



## Зноў вандалізм

У ліпені на III з'ездзе беларусаў свету я расказвала, што ў Вільні злачынцы–рабаўнікі толькі за апошнія некалькі месяцаў укралі барэльеф з табліцы Рыгору Шырме, укралі самую прыгожую і каштоўную табліцу Пётру Сергіевічу, украдзена шыльда К. Каліноўскаму, сапсавана – Бр. Тарашкевічу. Ці не спецыяльна знішчаецца беларуская прысутнасць у Вільні? Ды не. Гэта рабаўнікі каляровага металу. Прыязджаем са з'езду – няма табліцы Вацлаву Ластоўскаму па вуліцы Пілімо, у цэнтры горада, на будынку, у якім месцілася рэдакцыя "Нашай нівы". Паведамілі ў паліцыю. Так, яны ведаюць, табліца знаходзіцца ў паліцыі. Ноччу пад час дэмантажу рабаўнікі ўбачылі дзяжурных паліцэйскіх, кінулі ўкрадзенае і спакойна ўцяклі. Ніхто іх і не збіраўся лавіць, можа гэта адныя злачынцы ўсе табліцы пакралі. Варта задумацца, і, сапраўды, можа ідзе знішчэнне беларускай прысутнасці. Вісіць жа дошка Т. Шаўчэнку, і ніхто яе не чапае. А гасцям горада давядзецца канстатаваць, вандруючы па Вільні: "Тут, у гэтым доме жыў сусветна вядомы беларускі мастак Пётра Сергіевіч. Была табліца ў яго гонар, але яе ўкралі і т.д."

Чаму, беларусам так не шанцуе, і тут нас крыўдзяць, і тут няма абароны.

***Леакадзія Мілаш, г. Вільня.***

Беларуская мова-
ТБМ
наша будучыня

## *Ахвяраванні на ТБМ*

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Васілеўскі Аляксей | – 100 руб. |
| 2. | Бондар Раман | – 100 руб. |
| 3. | Ганчарова Валянціна | – 500 руб. |
| 4. | Бярыраў Уладзімір | – 1.000 руб. |
| 5. | Казлоўская Іна | – 500 руб. |
| 6. | Сафро Марыя | – 5.000 руб. |
| 7. | Шкірманкоў Фелікс | – 2.000 руб. |
| 8. | Волчак Андрэй (Польша) | – 200 М |
| 9. | Анатоль Сазонаў | – 1.000 руб. |
| 10. | Мікола Дзямід (Менск) | -- 10.000 руб. |
| 11. | Лаўдар Міхась (Аўстралія) | – 20.000 руб. |
| 12. | Суполка "Рэфармацыя" | – 50 $ |
| 13. | Карповіч Алесь (Рыга) | -- 2 $ |
| 14. | Жучкова Наталля | – 3.000 руб. |
| 15. | Удзельнікі III з'езду беларусаў свету | – 59.273 руб. |
| 16. | Янка Запруднік (ЗША) | – 60 $ |
| 17. | Васіль Кашан (ЗША) | – 40 $ |
| 18. | Штыхаў Георгі (Менск) | -- 5.000 руб. |
| 19. | Сябры ТБМ з Масквы | – 380 руб. рас. |
| 20. | Сямейства Кіпеляў (ЗША) | – 100 $ |
| 21. | Кановіч Алесь | – 5.000 руб. |
| 22. | Рамукі Вера і Вітаўт (ЗША) | – 120 $ |
| 23. | Драздоўскі Барыс (Менск) | – 3500 руб. |

**Горадня**

Закончылася падпіска на II паўгоддзе 2001 года на газету "Наша слова". Гарадзенская абласная рада ТБМ імя Ф. Скарыны падпісала 58 экзампляраў газеты "Наша слова" для сярэдніх школ горада Горадні і Гарадзенскага раёна. Гарадзенская раённая арганізацыя ТБМ падпісала для базавых школ 8 экзампляраў газеты "Наша слова".

Хочацца выказаць падзяку за аказаную фінансавую дапамогу ў падпісцы газеты "Наша слова"

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Чугаю Л. Р. | – 4000 руб. |
| 2. | Семяновіч Ч. А. | – 2000 руб. |
| 3. | Будаўніку з г. Горадні | -- 54.600 руб. |
| 4. | Супрацоўнікам ВКФ "5 плюс" | – 18.800 руб. |

Ахвяраванні на дзейнасць ТБМ сёння – гэта інвестыцыя ў росквіт незалежнай Беларусі і мовы яе народа заўтра!

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас: вул. Румянцава 13, г. Менск, 220005, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ № 3015212330014 у Менскай гардырэкцыі ААТ Белбізнесбанка код 764 праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).

**Айцу Аляксандру Надсану**

## ВЕЛЬМІШАНОЎНЫ І ДАРАГІ АЙЦЕЦ АЛЯКСАНДР!



Ад кіраўніцтва міжнароднага Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" і ад свайго імя горача віншуем Вас з юбілеем! Дасылаем нашыя найлепшыя пажаданні добрага здароўя, далейшай плённай працы на карысць беларускай справы, пашырэння ведаў пра беларускую гісторыю і культуру, новых поспехаў у душапастырскай дзейнасці!

Вітаем Вас як выдатнага дзеяча беларускай эміграцыі, шчыра адданага ад юнацкіх гадоў беларускай справе, сапраўднага патрыёта нашай роднай Беларусі!

Ваш жыццёвы шлях беларускага патрыёта пачаўся ў шэрагах "Саюза беларускай моладзі" ў барацьбе са зброяй у руках супраць фашызму падчас Другой сусветнай вайны. Вы былі адным з заснавальнікаў Згуртавання беларусаў Вялікабрытаніі і некаторы час узначальвалі яго. Ваша святарскае пакліканне спрыяла падтрыманню і пашырэнню духоўнага жыцця беларусаў за мяжой. Ужо 15 год Вы служыце апостальскім візітатарам для беларусаў-каталікаў за мяжой, кансультатарам кангрэгацыі ўсходніх цэркваў пры Ватыкане. Ад 1989 г. Вы зрабілі вялікі ўнёсак у дапамогу пацярпелым ад радыяцыі ў Беларусі як старшыня Беларускага камітэту дапамогі ахвярам радыяцыі ў Вялікабрытаніі, прывозячы гуманітарную дапамогу для пацярпелых ад наступстваў Чарнобыльскай катастрофы.

Вялікая і яшчэ неацэненая праца зроблена Вамі, Айцец Аляксандр, як кіраўніком Беларускай бібліятэкі імя Францішка Скарыны ў Лондане. Дзякуючы Вашай працы бібліятэка ператварылася ў дзейны навукова – асветніцкі асяродак беларушчыны за мяжой. Вялікая Ваша праца і ў выданні тэалагічных прац, і перш – кнігі "Наша вера: кароткі катэхізм хрысціянскай навукі для беларусаў-католікаў" (1988, 1990), а таксама афіцыйна зацверджаныя Ватыканам пераклады на беларускую мову тэкстаў для правядзення літургіі. Беларускім навукоўцам і вучоным іншых краінаў вядомы і шэраг Вашых артыкулаў пра беларускую духоўную і свецкую літаратуру даўніх часоў.

Адзначаючы Ваша 75-годдзе, вітаем Вас як беларускага святара, грамадскага і культурнага дзеяча беларускага замежжа сціплага і добразычлівага чалавека, выдатнага беларускага патрыёта!

Спадзяёмся на далейшае супрацоўніцтва.

З вялікай пашанай да Вас.

**Прэзідэнт МГА ЗБС "Бацькаўшчына" Анатоль Грыцкевіч**

**Старшыня Рады Алена Макоўская**

**Жыве Беларусь!**





# Роздум напярэдадні выбараў

*Гэты артыкул быў прапанаваны газетам "Наша свабода" і "Народная воля". "Наша свабода" адмовілася адразу, а "Народная воля" ўзяла, але ў друк не пусціла. Мабыць выключна дэмакратычны імідж гэтых газет дазваляе ім самім вызначаць, якая інфармацыя патрэбна для дэмакратычнай грамадскасці, а якая лішняя. У нас падход іншы, таму чытайце, калі ласка.*



Зараз, калі на палітычнай мапе Беларусі акрэсліваюцца канкрэтныя знакавыя фігуры будучай прэзідэнцкай гульні, зноў паўстае традыцыйнае славянскае пытанне: "Што рабіць?" Слава Богу, што адказ на другое, такое ж спрадвечнае пытанне: "Хто вінаваты", большасць беларускага грамадства ўжо ведае.

Аднак ад адказу на першае пытанне залежыць лёс нашай нацыі, і кожны свядомы грамадзянін Беларусі спрабуе альбо сам на яго адказаць, альбо выслухаць думку іншага на гэты конт. Як нам усім зрабіць так, каб дзень 9 верасня 2001 года прынёс такія ж вынікі, як некалі 8 верасня 1514 года, калі пагроза нашаму існаванню была адкінута на некалькі стагоддзяў? Тым больш, што сітуацыя ў нас вельмі падобная. Зноў моцны вораг (на гэты раз мясцовай гадоўлі) некалькі гадоў пануе на нашай тэрыторыі, зноў яго сілы значна большыя, чым нашыя, зноў нашае войска складаецца з асобных вайсковых адзінак, кіраўнікі якіх не вельмі давяраюць адзін аднаму. І дзе ж той адзіны ваявода, сучасны гетман Астрожскі, які здолее нас не толькі ўзначаліць і натхніць на перамогу, але і здольны мець сродкі, каб трымаць у засадзе тыя гарматы, якія і знішчаць у пэўны момант варожыя орды? Таму пачнем з аналізу сітуацыі.

### Дзве апазіцыі – дзве наменклатуры

Сённяшняя беларуская апазіцыя складаецца з дзвюх вялікіх частак. Найперш, гэта былая далукашэнкаўская апазіцыя, якая склалася яшчэ ў канцы 80-х – пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя. Найбольш значную сілу тут зноў ўяўляе БНФ, які не загінуў пасля расколу, а выйшаў на сённяшнюю палітычную арэну дзвюмя партыямі. У спрэчцы паміж прыхільнікамі Пазьняка і Вячоркі несумненна бліскуча перамаглі апошнія, бо яны здолелі аб'яднацца з прадстаўнікамі АГП, рознымі плынямі сацыял-дэмакратаў, прадстаўнікамі рэгіянальных няўрадавых арганізацый вакол Сямёна Домаша і сабраць за яго чвэрць мільёна подпісаў (з якіх былі здадзены на рэгістрацыю 160.450).

Вельмі важна, што ў адрозненне ад групы Ганчарыка подпісы збіраліся за Домаша не толькі ў Менску (іх тут прыкладна 30 тысяч), але і ў шматлікіх раёнах Беларусі, прычым нават у самых глухіх кутках. Калі б мне хто сказаў раней, што ў маім родным Мсціславе, дзе амаль задушаныя ўсе палітычныя сілы, у тым ліку і ТБМ, мае землякі адважацца публічна паставіць за Домаша каля 1000 подпісаў, што значна болей, чым на яго радзіме, у Ляхавіцкім раёне, я б ніколі не паверыў гэтаму, таму несумненна, што на ролю Астрожскага ў Домаша значна больш правоў, чым у Ганчарыка.

Другая артадаксальная плынь БНФ на чале з Пазьняком і Беленькім не здолела сабраць неабходную колькасць подпісаў, хаця зрабіць гэта было даволі лёгка. Большасць ахвотных паставіць свой подпіс за Пазьняка проста не знайшла месцаў, дзе былі ягоныя зборшчыкі подпісаў, так яны добра замаскаваліся. Адзін вядомы беларускі пісьменнік, нягледзячы на былыя спрэчкі з Пазьняком, літаральна збіў ногі, калі ў нясцерпную ліпеньскую спёку блукаў па Менску, каб падпісацца за дзядзьку Зянона. З-за бяздарнасці сваіх помочнікаў Пазьняк згубіў унікальную магчымасць легальна вярнуцца на Радзіму пасля рэгістрацыі ў кандыдаты на прэзідэнцкую пасаду, каб зноў рэальна, а не віртуальна ўплываць на сённяшні палітычны працэс у нашай краіне.

Аднак галоўнай памылкай БНФ Вячоркі, на маю думку, была рашучая адмова яго і большасці яго намеснікаў пералельна з Домашам вылучыць свайго, хай фармальна незалежнага, але цалкам правага кандыдата. Я не сумняваюся, што сабраць 100 тысяч подпісаў за Ніла Гілевіча, Радзіма Гарэцкага, Генадзя Бураўкіна ці Уладзіміра Арлова было б не цяжэй, а магчыма лягчэй, чым за Домаша. Гэты кандыдат у любых абставінах карыстаўся б прыгожай літаратурнай беларускай мовай, не хаваў бы сваіх прыхільнасцяў да беларускай гісторыі і культуры.

Несумненна, ён таксама б увайшоў у склад славутай "пяцёркі", і тады б выбар адразу прыйшоўся на не зусім правага Сямёна Домаша.

Але новыя кіраўнікі БНФ не маюць ахвоты да складаных палітычных камбінацый, бо большасць з іх мае сваю уласную палітычную ці грамадскую гаспадарку, і на сапраўдную грунтоўную палітыку ў іх бракуе сілаў і часу.

Яшчэ большую вагу атрымаў бы правы палітычны лагер, калі б крайнім справа ў яго шэрагах стаяў Зянон Пазьняк і зацята крытыкаваў бы ўсіх астатніх за недахоп беларушчыны.

Другая, новая частка сённяшняй апазіцыі, складаецца са старой, яшчэ кебічаўскай наменклатуры і былых часовых ці сталых прыхільнікаў Лукашэнкі. У апошні час да яе далучыўся Іван Ціцянкоў, той самы, які некалі з вялікай асалодай падраў на шматкі дзяржаўны бел-чырвона-белы сцяг.

Гэтыя людзі адразу вырашылі захапіць уладныя структуры ў старой апазіцыі. Так да ўлады ў АГП прыйшоў Анатоль Лябедзька, які ў свой час сагітаваў прагаласаваць за Лукашэнку ўсю Ашмяншчыну, а буйным лідэрам БСДГ(НГ) стаў Уладзімір Нісцюк, які актыўна разам з Посахавым вёў да перамогі старшыню саўгаса "Гарадзец" у старажытнай Горадні.

Апошнім да іх далучыўся Васіль Лявонаў, дзякуючы якому Лукашэнка надоўга прыйшоў у вялікую палітыку.

Згубіўшы ўладу, гэтыя людзі хочуць адпомсціць свайму былому сябру, таму і выступаюць больш за астатніх, прычым на старонках нават дзвюхмоўных выданняў выключна па-расейску.

Аднак моц гэтых людзей у тым, што яны даўно ў большасці сваёй уваходзяць у клан менскай партыйна-савецкай наменклатуры, і таму яны паставілі менавіта на Уладзіміра Ганчарыка, які амаль цалкам ад іх залежыць, бо яго славутая федэрацыя прафсаюзаў, гэта "калос на гляняных нагах". Дарэчы, пасля выбараў Лукашэнкі ў прэзідэнты у 1994 годзе менавіта афіцыйныя прафсаюзы падтрымалі яго першымі.

За апошнія сем гадоў, дарэчы дзякуючы Лукашэнку, сфармавалася маладая рэгіянальгная наменклатура, даволі адукаваная і спрытная, якая назапасіла рознымі праўдамі і няпраўдамі някепскі стартавы капітал і складае зараз славуты сярэдні клас разам са сваімі сябрамі – мясцовымі бізнесменамі.

Большасць з іх згодная падтрымаць менавіта адносна маладога, але выдатнага рэгіянальшчыка Сямёна Домаша. Яны не вельмі шкодзілі не толькі збіраць, але і рэгістраваць подпісы за яго, і зараз гэта рэальныя і моцныя саюзнікі правай нацыянальнай апазіцыі. Дарэчы, у іх няма праблем з беларускай мовай, а беларускую гісторыю і культуру яны ўжо даволі добра ведаюць і маюць дома кнігі Васіля Быкава, Уладзіміра Арлова і інш. Самыя смелыя іх прадстаўнікі паціху раяць Сямёну Домашу не спяшацца хавацца ў бульбу і здымаць сваю кандыдатуру.

### Моцнае рашэнне – зрабіць слабейшага кандыдата першым і адзіным

Моцны і дасведчаны камуністычны зубр – Васіль Лявонаў – несумненна стаяў ля вытокаў рашэння зрабіць адзіным кандыдатам Ганчарыка, а не Домаша, атрымаўшы пры гэтым падтрымку ўсяго левага спектру беларускай палітыкі, нават камуністаў Калякіна. Самы дальнабачны тут аказаўся не Ганчарык, а Домаш, які ў якасці адкупнога атрымаў майку запаснога лідэра і права ісці на рэгістрацыю. Цяпер ён, а не Лявонаў ці Ганчарык можа дыктаваць свае ўмовы старой наменклатуры: альбо Вы дзеліцеся са мной рэальнай уладай, альбо я іду да канца, як сапраўдны незалежны кандыдат ад беларускіх рэгіёнаў, як некалі Лукашэнка.

Такая сітуацыя выклікала паніку ў лагеры Лукашэнкі і яго маскоўскіх сяброў. Калі яны здымаюць Ганчарыка, то застаецца Домаш і Гайдукевіч, і ў першым туры сумленна выйграць немагчыма, а ў другім чакае лёс Кебіча.

Калі зняць толькі Домаша, ён падтрымае Ганчарыка, і сітуацыя будзе падобнай на першую. Калі зняць абодвух – гэтага не зразумее не толькі Захад, але і Расія. Калі ж застанецца і Домаш, і Ганчарык, зноў будзе другі тур, а далей магчымая перамога Домаша.

Галоўная задача Ганчарыка і Домаша не лаяцца падчас выбарчай кампаніі і цалкам скарыстаць свае рэсурсы ў друку і іншых СМІ для крытыкі сённяшняга рэжыму.

Самае галоўнае, што рэгіянальная наменклатура, паставіўшы на Домаша, не дапамагла сабраць подпісы Сініцыну, Марынічу і іншым выхадцам з менскага наменклатурнага клану. Значыць, менавіта яна зблытала ўсе карты палітычнай гульні Лукашэнкі, які планаваў лёгка перамагчы ў першым туры больш тузіна самых розных кандыдатаў, якім загадзя пакінуў 15 месцаў у ЦВК. Лукашэнка зараз не ведае, што рабіць нават з Гайдукевічам, рэгістраваць яго ці не, бо сітуацыя цалкам выходзіць з-пад яго кантролю.

Апошні ж візіт у Віцебск Кучмы і Пуціна вельмі нагадвае пацалункі ў Менску Чарнамырдзіна і Кебіча. Дарэчы, Вячаслаў Францавіч, я лічу, яшчэ не сказаў свайго апошняга слова!

### Як нам перамагчы дракона?

Спачатку трэба ўсім паверыць у перамогу і пераканаць у гэтым сваіх знаёмых і блізкіх.

Калі 9 верасня ў выбарах адначасова возьмуць удзел болей чым 80% грамадзян Беларусі, сумленны выйгрыш Лукашэнкі немагчымы ў першым туры нават калі ён будзе у бюлетэнях адзіным (зараз яго рэйтынг максімум 30-35%).

Відаць, далёка не кожны ведае, што на выбарах ён атрымае бюлетэнь новага тыпу, дзе не трэба выкрэсліваць прозвішчы тых, хто табе не падабаецца, а неабходна паставіць "крыжык" ці іншы знак у пустым квадраціку насупраць прозвішча абранага табою кандыдата. У выпадку, калі са спісу табе ніхто не да спадобы, будзе ў бюлетэні апошні радок, які дазваляе галасаваць супраць усіх прэтэндэнтаў на пасаду прэзідэнта. Калі паставіць "крыжык" у апошнім квадраціку ўнізе, Лукашэнка не атрымае твайго голасу, а бюлетэнь будзе несапраўдным.

Каб галасы не сфальсіфікавалі, трэба не хадзіць на датэрміновае галасаванне і паведамляць у сродкі масавай інфармацыі, а таксама ў праваабарончыя арганізацыі пра тых асобаў, якія прымушаюць гэта рабіць (асабліва гэта датычыцца студэнтаў і жыхароў розных інтэрнатаў, а таксама вайскоўцаў).

Зараз, калі лёс Бацькаўшчыны залежыць ад канкрэтнага грамадзяніна, кожны актыўны чалавек можа вылучыць сябе ў назіральнікі на тым участку, дзе будзе галасаваць, калі збярэ дзесяць подпісаў тых грамадзян, якія жывуць на тэрыторыі гэтага ўчастка. Ён таксама можа далучыцца да незалежнага назірання, якое праводзяць розныя грамадскія арганізацыі, пры умове, што ён сябра адной з іх, а яна афіцыйна зарэгістраваная на тэрыторыі пэўнага горада ці раёна.

Калі на кожным выбарчым участку, а іх толькі ў Менску 644, будзе ад трох да пяці незалежных назіральнікаў, сфальсіфікаваць вынікі выбараў незаўважна будзе практычна немагчыма.

Калі ж улады пойдуць на наўпроставую падтасоўку выбараў, то чалавек, які захопіць незаконна ўладу у цэнтры Еўропы, доўга ў прэзідэнцкім крэсле не ўтрымаецца. Аб гэтым яскрава сведчаць падзеі ў Югаславіі, Філіпінах і Інданэзіі.

Прызнаваць дыктатара могуць адмовіцца ў любы момант сілавыя структуры, і рэжым адразу скончыць сваё існаванне. Дастаткова толькі прыгадаць лёс славутага "ГКЧП" у былым СССР. Без падтрымкі войска путч прыйшоў да паразы ўсяго за два-тры дні.

Таму спадарства, усе на выбары! Разам мы пераможам, і 9 верасня 2001 г. можа ўвайсці ў аналы беларускай гісторыі як святочны дзень.

*Алег Трусаў,*
*г. Менск*
*2 жніўня 2001 г.*




Нарэшце і беларусы спадобіліся нешта зрабіць у тэрмін. У выдавецтве "Беларусь" выйшаў беларускамоўны каляндар "Родны край" на 2002 год. Але змест календара цяжка параўнаць, нават, са зместам такога ж дзесяцігадовай даўніны, ды той рыхтаваўся яшчэ пры савецкай уладзе, а гэты пасля дзесяцігоддзя незалежнасці. У новым календары няма ўспаміну пра БНР. Не адзначана нават успамінам 17 верасня. Не згадана 27 ліпеня. А, наогул, большасць дзён не адзначаны ніякай падзеяй, ніякім юбілеем. Як бы і не было 1000-гадовай гісторыі, як бы не дала Беларусь чалавецтву тысяч выдатных дзеячоў ува ўсіх галінах дзейнасці. Сапраўдны каляндар для людзей без мінулага, для народа без гісторыі.

# Памяці Вячаслава Адамчыка



4 жніўня 2001 года на 68 годзе жыцця памёр таленавіты беларускі празаік, аўтар тэтралогіі пра Заходнюю Беларусь, адзін з заснавальнікаў ТБМ і ў апошні час сябар Рэспубліканскай Рады ТБМ

**Вячаслаў Адамчык**

Нарадзіўшыся ў вёсцы Варакомшчына Дзятлаўскага раёна Гарадзенскай вобласці ў 1933 годзе, скончыў БДУ, працаваў на "Беларусьфільме", з 1982 года быў галоўным рэдактарам часопіса "Бярозка". Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя І. Мележа і Дзяржаўнай прэміі імя Я. Коласа. Заўсёды заставаўся шчырым беларусам.

Сакратарыят ТБМ, рэдакцыя газеты "Наша слова" выказваюць шчырыя спачуванні родным і блізкім нябожчыка і ўсім беларусам у сувязі з цяжкай стратай.

## "Дзічка" Ніны Шкляравай




Прэзентацыя новага зборніка вершаў "Дзічка" гомельскай паэткі Ніны Шкляравай прайшла ў Гомелі. Акрамя шматлікіх калег па літаратурнаму аб'яднанню "Пралеска" яе прыйшлі павіншаваць сябры, родныя і даўняя сяброўка, якая ўзначальвае цяпер Саюз пісьменнікаў Беларусі, Вольга Іпатава.

**На здымку:** гомельская паэтка са старшынёй Саюза пісьменнікаў Вольгай Іпатавай.

**Фота Сяргея Халадзіліна, БелТА.**

## Жанчына, Радзіма, Будучыня

*Ёсць назвы, і болей нічога:*
*Жанчына... Каханне... Жыццё...*
*Замкнута ад нас адкрыццё,*
*А ключ пад падушкай у Бога.*
*Сяргей Законнікаў.*

"Жанчына. Радзіма. Будучыня" – тэма першага Усепалескага жаночага кангрэсу, арганізаванага міжнародным жаночым фондам Святой Ефрасінні Полацкай. Тое, што беларуская жанчына разумная, упэўненая, рашучая сказана нашымі класікамі – Ганна Чарнушка ("Людзі на балоце"), Сцепаніда ("Знак бяды"). Яны ведалі, як паступіць і мэтанакіравана дзейнічалі ў адказны момант. Для мяне прыклад беларускай жанчыны – Ларыса Геніюш, у жыцці "дапамагае" Святая Ефрасіння Полацкая. Напярэдадні кангрэсу ўзнікла пытанне: "Чаму нашы жанчыны – вядомыя грамадскія дзеячкі не вылучаюць свае кандыдатуры на выбарах прэзідэнта краіны?" Іх шмат больш, чым мужчын, яны больш адукаваныя, толькі жанчыны маюць па дзве вышэйшыя адукацыі. Узначаліла ж жанчына В. Іпатава Саюз пісьменнікаў і адразу актывізавалася дзейнасць. Толькі за апошні год у Вільні на сустрэчах з віленскімі беларусамі і вучнямі Віленскай беларускай школы пабывалі В. Іпатава, В. Коўтун, С. Алексіевіч, Хр. Лялько, С: Законнікаў, Ул. Арлоў, А. Вярцінскі, Л. Дранько-Майсюк, А. Федарэнка, гэта вельмі важна, хоць і складана ў наш час. Узначальвае фонд Еф. Полацкай В. Коўтун і ён дзейна працуе.

У сваім выступленні старшыня ТБМ Алег Трусаў адзначыў, што ў кіраўніцтве ТБМ больш 50% жанчыны, у рэгіянальных суполках – таксама, таму і бачны вынікі. Напрыканцы свайго выступлення А. Трусаў заклікаў не цурацца сваёй роднай мовы, размаўляць з сваімі дзеткамі, супрацоўнікамі ўсюды, павіншаваў з днём незалежнасці (27 ліпеня), дзякуючы якой беларускія хлопцы не сталі "пушачным мясам" у Чачні і іншых гарачых кропках былога СССР. Кангрэс адбыўся ў зале Дома пісьменнікаў, якая змяшчае 300 чалавек, і толькі тры выступленні прагучалі на роднай мове. Упэўнена, - нашы жанчыны адчувалі сябе няўтульна пасля выступлення дэлегаткі з Львова на ўкраінскай мове. Але ж, калі жанчыны сабраліся, рашылі, яны дамагаюцца. Сапраўды: "Ці можа кіраваць краінай мужчына, які не жыве з сваёй жонкай, сям'ёй?" Чаму жанчына, выконваючы аднолькавую працу з мужчынам атрымоўвае менш? А жанчына павінна кожны дзень думаць, чым накарміць сям'ю. Ці можа лічыць сябе бацькам мужчына, які не разумее, што дзіцё трэба апранаць і карміць кожны дзень, або як сябе адчувае мужчына, які жыве за кошт сваёй старэнькай маці? Дзіцячыя захворванні, наступствы Чарнобылю, беспрацоўе, злачынствы, правы жанчыны – асноўныя балючыя тэмы дакладаў. Ад жанчыны залежыць будучыня. Толькі здаровая жанчына можа нарадзіць здаровых нашчадкаў. Яна вырашае нараджаць або не. Амерыканскі палітык сказаў, што Расею нельга перамагчы ваенным шляхам, яе можна перамагчы толькі разбэшчанасцю жанчын. Вынікі, як кажуць "на лицо". Гэта датычыцца і беларускіх жанчын. Нешта чытала ўспаміны нямецкага гінеколага, які даследаваў палонных жанчын і якое было здзіўленне, што ў дваццаць адзін год захавалі цнатлівасць. У "Народнай волі" прыводзіліся статыстычныя дадзеныя, калі выпіваецца 8 л. гарэлкі ў год уключаючы і немаўлят, то нацыя спіласа, у Беларусі – 11 л. Дык якая будучыня? Напрыклад, у Гярвяцкім касцёле хрышчэнняў зарэгістравана 10 за 2001 г., улічваючы, што былі і з другой краіны, нябожчыкаў – 30. Ёсць над чым задумацца. Таму і сабраліся жанчыны з розных рэгіёнаў Беларусі і нават з замежжа. Як будуць развівацца падзеі ў Беларусі, ці будзе яна дэмакратычнай, незалежнай залежыць і становішча беларусаў у другіх краінах, жанчыны ў прыватнасці. Беларусь, мова, жанчына, нацыянальнасць, краіна, незалежнасць, дэмакратыя, годнасць жаночага роду.

Жанчына народжаная, каб несці і прадаўжаць жыццё, за ёй будучыня.

*Леакадзія Мілаш,*
*г. Вільня.*

# "Сны імператара" ад Уладзіміра Арлова

*У выдавецтве "Мастацкая літаратура", г. Менск выйшла кніга Уладзіміра Арлова "Сны імператара". Апавяданні. Аповесці. Эсэ. Наклад 4000 асобнікаў. 384 ст.*

У інтэрвію "Беларускай дзелавой газеце" Уладзімір Арлоў сказаў наступнае:

-- Мая гістарычная мастацкая проза ў кніжным фармаце не выходзіла ў Беларусі, пачынаючы з 1994 года -- 7 гадоў. Тэрмін, не цяжка заўважыць, далёка не выпадковы. Апошнім падобным выданнем быў зборнік аповесцяў і апавяданняў "Пяць мужчын у леснічоўцы". Гэта ўжо цяпер я ведаю, што і аб'яднанне "Белкніга", і бібліятэкі, і ТБМ перыядычна накіроўвалі ў Дзяржкамдрук замовы на перавыданне маёй гістарычнай прозы, спасылаючыся ў прыватнасці на тое, што некаторыя мае аповесці і апавяданні ўключаны ў школьную праграму. Адказам нязменна было маўчанне. Аднак трэба аддаць належнае настойлівасці старшыні ТБМ Алега Трусава, паколькі менавіта яму ўдалося прабіць гэтую сцяну дзяржаўнай кнігавыдавецкай сістэмы. Праўда Трусаў распавядаў, што першыя адказы, якія прыйшлі за подпісам намесніка старшыні Дзяржкамдруку Ўладзіміра Глушакова, іначай, як здзеклівымі, назваць нельга. Так, напрыклад, у адказ на замову тысячы асобнікаў кнігі "Сны імператара" для ТБМ Глушакоў у прыватнасці напісаў пра неабходнасць "ацэнкі мастацкіх вартасцяў, праўдзівасці адлюстравання гістарычных падзей" у маіх творах і пры "станоўчых выніках" меркаваў, што "Сны імператара" могуць пабачыць свет у 2004 годзе!

... Канешне, у мяне была магчымасць выдаць кнігу, дзякуючы падтрымцы фундатараў. У прыватнасці, такім чынам і была выдадзена мая навукова-папулярная кніга "Адкуль наш род". Так выйшла і кніга "Дзесяць вякоў беларускай гісторыі", напісаная ў суаўтарстве з Генадзем Сагановічам. Дарэчы, яна цяпер выдадзена і на расейскай мове.

Уладзімір Арлоў
ХХ стагоддзе
Беларуская проза
СНЫ ІМПЕРАТАРА





*Алегу Трусаву.* *Прашу пазнаёміцца з маім адказам Нілу Гілевічу.*

***С. Запрудскі.***

***Станіславу Судніку.*** *Прашу надрукаваць мой адказ адразу або 2-3 тыдні счакаўшы. Магчыма, яшчэ ў каго-небудзь з чытачоў назапасілася адмоўная энергія з нагоды маіх публікацый, магчыма, па слядах Ніла Гілевіча яшчэ хто-небудзь захоча паказаць мне, дзе ракі зімуюць. Трэба даць магчымасць людзям выказацца.*

***С. Запрудскі.***

*17 ліпеня 2001 года.*

## Адкрыты ліст Нілу Гілевічу

Шаноўны Ніл Сымонавіч!

Я з вялікай увагай прачытаў Ваш водгук на мой колішні дыскусійны артыкул і лічу, што Вашы вельмі грунтоўныя довады вартыя далейшага абмеркавання. Прабачце, што не магу адказаць Вам па сутнасці адразу, але на гэта ёсць важкая прычына.

Артыкул, што прыцягнуў Вашу ўвагу, з'яўляецца не адзінай маёй публікацыяй з нагоды будучага развіцця беларускай мовы. Як вы ведаеце, у красавіку мы з калегамі надрукавалі ў "Нашым слове" першы варыянт Стратэгіі, якая цяпер супольна выпрацоўваецца ў Таварыстве. VII з'езд ТБМ адобрыў ідэю стварэння Стратэгіі і запланаваў шэраг крокаў з гэтай нагоды, у тым ліку абмеркаваннне наяўных праектаў у суполках. Нас, такім чынам, чакае вялікая дыскусія.

Я вельмі спадзяюся, што як сябра рабочай групы па выпрацоўцы Стратэгіі і чалавек, які валодае унікальным досведам у моваабарончай дзейнасці, вы таксама возьмеце ўдзел у абмеркаванні наяўных праектаў або прапануеце свой уласны. Я цалкам дапускаю, што ў выніку абгаварэння будзе падтрыманы акурат падрыхтаваны вамі праект Стратэгіі. ... І тады сама па сабе адпадзе патрэба папярэджваць сяброў ТБМ наконт таго, што у маёй (я так разумею, і маіх калег таксама?) канцэпцыі Стратэгіі месціцца "вельмі небяспечная дэзарыентацыя, якая можа даць трагічныя вынікі".

Калі ж Ваш удзел у распрацоўцы Стратэгіі абмяжуецца толькі палемікай са мной з высвятленнем таго, хто здабыў для беларускай мовы гістарычныя перамогі, а хто – не, то, тады, прабачце, я буду змушаны думаць, што Вамі кіруюць не столькі меркаванні карысці справы, колькі нешта іншае.

Шчыра Ваш,

**Сяргей Запрудскі.**

26 ліпеня 2001 г.

# Думкі ўслых менскіх студэнтаў

***Чым бліжэй да выбараў, тым вастрэй барацьба, тым меншае значэнне мае асоба чалавека, а ўсё больш значыць, на чыім ён баку. А што рабіць з тымі, якія не на чыім баку, якія самі з'яўляюцца апорнымі палямі нашай нацыянальнай свядомасці. Што рабіць з Гілевічам, Быкавым, Бураўкіным, якія ўжо, нават, не сваёй творчасцю, яны стварылі дастаткова, якія адной сваёй прысутнасцю на гэтай зямлі, сваім месцам на гэтай зямлі, сваім успрыяцем ці не ўспрыяцем той ці іншай з'явы, таго ці іншага ўчынку, таго ці іншага чалавека, вызначаюць месца і гэтай з'явы, і ўчынку, і чалавека ў беларускай рэчаіснасці. Што рабіць з тымі каго нельга напужаць, нельга купіць, нельга абмануць. Але можна абылгаць, ашальмаваць, абгаварыць.***

***Для таго, каб абылгаць Быкава, Гілевіча, Бураўкіна мала аднаго плеткара, мала дзесяці, для гэтага стварылі цэлыя радыё- і тэлеперадачы.***

***Рэдакцыя атрымала падборку водгукаў менскіх студэнтаў на перадачы "Таемныя спружыны палітыкі" і "Размова па сутнасці", дзе было арганізавана цкаванне людзей, якіх кожны беларус можа і павінен лічыць не менш, як гонарам нацыі, гонарам краіны.***

У апошні час, на жаль, вельмі часта можна сустрэць у СМІ зняважлівыя словы ў адносінах да нашай творчай эліты. Гэта наогул незразумела, бо сучаснае пакаленне выхоўваецца на творах такіх сусветна вядомых літаратараў, як Генадзь Бураўкін, Ніл Гілевіч, Васіль Быкаў і інш. Яшчэ са школьных часоў малады чалавек пазнаў невычэрпную глыбіню мастацкага слова. І вось цяпер вельмі крыўдна, балюча нам, прадстаўнікам сучаснай моладзі, чуць, як шальмуюцца пісьменнікі, з твораў якіх мы пачыналі пазнаваць свет.

У радыёперадачы "Розговор по существу" і тэлеперадачы "Тайные пружины политики" гучаць словы, якія абураюць сваёй хлуснёй. Як можна чалавека надзвычайных духоўных якасцяў, які ўсё сваё жыццё прысвяціў служэнню народу, абразіць нізкімі палітычнымі прыёмамі.

Увесь свет паважае і шануе Г. Бураўкіна, В. Быкава, Н. Гілевіча, ім у свой час прысуджаны самыя высокія прэміі і ўзнагароды. Чаму ж дзяржава дазваляе ганьбіць гонар такіх выключных людзей нашай Бацькаўшчыны?

**А. Пушкіна,**
**К. Сліжэўская,**
**БДТУ.**

*Неад'емным спадарожнікам любой дыктатуры з'яўляецца ідэалогія. Менавіта яна, як верны служка, пранікае ва ўсе ўстановы, нібы павуціне, аблытвае і душыць творчую незалежнасць. З'яўленне на беларускім тэлебачанні праграмы "Тайныя спружыны палітыкі" – не першае папярэджанне ўсім нам. Яе аўтары добра ведаюць няўмольную ісціну: каб знішчыць народ, трэба спачатку адняць у яго гонар, гісторыю, карані. Выліўшы брудныя словы на Вялікае княства Літоўскае, на знакамітага ва ўсім свеце В. Быкава, гэтыя шчырыя абаронцы ўлады дабраліся, нарэшце, і да Н. Гілевіча.*

*Выдатны паэт і пісьменнік Беларусі, на творчасці якога мы з маленства вучыліся любіць сваю зямлю, паказаны забытым, пасрэдным чалавекам. Беларусы, абудзіцеся! Зараз знішчаецца ваша гісторыя, вам адмаўляюць у таленавітасці, адымаюць права існаваць.*

***Марына.***

Сёння імя Ніла Гілевіча вядома ўсім. Але не кожны ведае, што гэта за чалавек, за асоба... Патрыёт сваёй Радзімы, абаронца, ён заўсёды стаяў на п'едэстале гонару, адвагі, мужнасці. Але ў наш час многія гэтага не разумеюць, а, можа, і не ведаюць, якой цаной Гілевіч здабыў тое, што называецца любоў да радзімы, жыццё на вольнай, не заганнай ворагам зямлі. Сродкамі інфармацыі паказваецца тое, да чаго дайшоў наш народ, якіх сыноў ён нішчыць, якіх людзей, што ўсё жыццё працавалі толькі на карысць роднаму краю. На жаль, сёння ўжо не даюць спакойна паэту напіцца "гаючай вадзіцы з крыніцы", "прайсціся па дарагой яму зямлі, паслухаць гоман пушчаў і лясоў...". У адрас чуюцца толькі абразлівыя словы і гнеў. Шкада... Да чаго ж мы ідзём? Што робім? Да чаго дайшла наша дзяржава, калі пляжацца такія людзі?

**А. Бондзіч,**
**БДТУ.**

*У наш час, калі жыццё з кожным днём становіцца больш складаным, мы павінны падтрымліваць адзін аднаго, быць разам. У нас жа наадварот. І адбываецца гэта ў сродках масавай інфармацыі, якія ганьбуюць нашу беларускую інтэлігенцыю. Ніл Гілевіч, Васіль Быкаў, Генадзь Бураўкін – гэта людзі, якія ўсё сваё жыццё аддалі беларускаму народу і сваёй Радзіме. Гэта людзі, якіх ведае ўся краіна і нават замежжа. А ў сябе дома іх зневажаюць і ганьбуюць. Але мы – студэнты шануем іх, паважаем, чытаем, сустракаемся з імі і будзем сустракацца, бо праз іх мы даведаліся пра сваё мінулае, а не ведаючы мінулага, не будзе будучыні!*

***А. Сідарэнка,***
***В. Пятровіч,***
***БДТУ.***

Усе мы ведаем, у якім цяжкім стане знаходзіцца зараз беларуская паэзія. Цяжкім не ў плане недахопу матэрыялу, майстэрства ці выбітных асоб, а ў плане шальмавання з боку сродкаў інфармацыі.

Яркім прыкладам з'яўляецца апаганьванне імя Ніла Гілевіча ў тэлеперадачы "Тайныя спружыны палітыкі". І справа, нават, не ў тым, што не чытаюць яго творы. Чытаюць! Яшчэ як! Справа ў тым, што зараз усё робіцца, каб лепшыя людзі Беларусі засталіся на задворках.

Мы выраслі на вершах Ніла Гілевіча, і зараз ад сустрэч з імі застаюцца толькі светлыя ўспаміны. Таму і вырашылі мы выкрыць хлусню і выказаць сваё абурэнне ад пачутага і ўбачанага на БТ.

**Мазуркевіч Ліза,**
**Загарулька Каця.**

*Мы жывём у вельмі цяжкі час. Можа, гэта будзе самы трагічны час для Беларусі. Многія з нас зразумелі: адбыліся такія змены ў свядомасці беларусаў, што патрэбна не адно пакаленне, каб неяк адрадзіць самасвядомасць. А яшчэ вельмі жудасна, калі гэта не даюць рабіць, і ідзе гэта зверху.*

*Калі паглядзець на наш "Нацыянальны канал", асабліва такія праграмы, як "Тайныя спружыны палітыкі", то становіцца незразумелым, які сёння час – 2001 год ці таталітарны рэжым Савецкай улады.*

***Мельнікава Насця.***

З нагоды прайшоўшага свята 9 Мая, свята Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне, хочацца ўспомніць пра пісьменніка В. Быкава, з твораў якога мы ведаем сапраўдную карціну гэтай вайны. Яго творы ўключаны ў школьную праграму для абавязковага вывучэння. Дзякуючы ім увесь свет пазнаў Беларусь, як жыццё праз прызму вайны. Незразумела тады, чаму зараз гэтае выдатнае імя ганьбяць яго ж землякі, якія таксама, мабыць, вывучалі "Знак бяды", "Кар'ер" і іншыя творы. Чаму на радыё і тэлебачанні В.Быкава ставяць разам з хронікай фашызму, супраць чаго ўсё жыццё гэты чалавек змагаўся. Аднак разам з тым у іншых краінах ён не перастае атрымоўваць усеагульную павагу, прызнанне, прэміі і нават польскім ПЭН-клубам ён вылучаны на Нобелеўскую прэмію.

Становіцца сорамна за тых людзей, якія не ведаюць гісторыю нашай краіны і ў барацьбе за цёплае месца забываюць пра новае пакаленне, якое стварае будучыню Беларусі. Хто не ведае свайго мінулага, не мае будучыні. Менавіта яе, будучыні, ніколі не будзе ў тых, хто падымае руку на духоўна багатых, светлых і чыстых людзей – сапраўдных патрыётаў.

**Г. Дамброўская,**
**С. Шарай,**
**М. Маеўская,**
**Т. Міцкевіч**

*Вялікае абурэнне выклікаюць некаторыя праграмы радыё і тэлебачання, якія шальмуюць волатаў беларускай літаратуры. Ідзе адкрытая хлусня на маральна выхаваных і жыццёва сталых людзей, на творах якіх выхоўвалася наша пакаленне. Ніла Гілевіча адкрыта назвалі "літаратурным паліцаем", Васіль Быкаў не па сваёй волі знаходзіцца за мяжой роднай Беларусі, у бок Генадзя Бураўкіна таксама кінуты камень. Чаму ж гэта робіцца менавіта ў Беларусі, на іх радзіме? Чаму ж за мяжой (у Італіі, Францыі, Расіі і інш.) шануюць іх і адзначаюць дзяржаўнымі ўзнагародамі.*

*Гэтыя людзі складаюць інтэлігенцыю, эліту нашай краіны. З імі мы сустракаліся на літаратурных вечарынах, чулі іх прыгожую беларускую мову. Іх творы трэба чытаць. З іх дапамогай чалавек пазбаўляецца ад пустэчы ў душы. Няўжо ж вы, паважаныя журналісты, у школе не чыталі творы гэтых вялікіх пісьменнікаў? Няўжо ж зусім страцілі сорам, чалавечую годнасць і нацыянальную свядомасць?!*

***С. Сукора,***
***С. Валодзіна,***
***Н. Чарвінская,***
***БДТУ.***

Калі разглядаць нашу краіну ў кантэксце міжнароднага рэйтынгу, няцяжка зрабіць выснову, што на сучасным этапе Беларусь вызначаецца даволі нешматлікімі дасягненнямі. Па сутнасці, нас ведаюць за мяжой, па-першае, як постсавецкую дзяржаву, падругое, як краіну з амаль таталітарным рэжымам; гэта, вядома, песімістычныя назіранні... Але на самой справе, усё не так цьмяна, бо адзінае, што вызначае нас зараз як культурную краіну, якая можа лічыць сябе цывілізаванай, еўрапейскага ўзроўню, - гэта прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі, сапраўды адукаваныя, высокакультурныя і сумленныя, выхаваныя і духоўна прыгожыя людзі.

Ці трэба гаварыць, што сапраўднымі дыяментамі беларускай інтэлігенцыі з'яўляюцца Ніл Гілевіч і Васіль Быкаў? Яны – гэта наш скарб, гонар нашай Радзімы, які трэба ахоўваць, абараняць і ствараць усе ўмовы, каб гэтым людзям было добра працаваць і жыць менавіта на Радзіме, а не дзесьці за мяжой.

Менавіта таму неверагоднае абурэнне выклікаюць здзеклівыя водгукі аб гэтых дзеячах, што гучаць у сродках масавай інфармацыі. Мы лічым, што гэта вар'яцтва, абсалютна недапушчальнае для нармальнай, цывілізаванай дзяржавы.

**Н. Цішэвіч,**
**В. Галаўніцкая.**

*У наш дэмакратычны час, калі мы паўсюль чуем пра свабоду ў выкарыстанні чалавечых правоў, усё ж застаюцца недзе ў "ядры" асновы таталітарызму. Такім чынам, дэмакратыя на самой справе толькі міраж, абалонка ў неахопнай таталітарнай пустэчы. І перш за ўсё гэта заўважаецца ў гвалтаванні свабоднай літаратурнай дзейнасці.*

*Яшчэ ў19 стагоддзі выявілася тэорыя "чыстага мастацтва", гэта значыць адлюстравання пісьменнікамі і паэтамі толькі прыгожасці, толькі эстэтычных пачуццяў. Але трэба заўважыць, што зараз ужо 21-е стагоддзе, зусім іншы час з іншымі ўмовамі жыцця, і гэта патрабуе новых формаў мастацтва і новых сродкаў адлюстравання рэчаіснасці. Творца павінен абапірацца на рэальнасць і факты. З невялікай папраўкай: не павінна быць ніякіх крайнасцяў. Як нельга зрабіць поўнасцю палітызаваным, так нельга і дазволіць палітыцы поўнасцю перакрэсліць праўдзівае апісанне жыцця і зрабіць пісьменнікаў проста механічнымі апавядальнікамі пра "добранькае" і "салодзенькае". Акрамя таго, як могуць судзіць пра мастацкую вартасць, філасофскасць, высокамаральнасць твораў на беларускай мове тыя, хто ў тэлеперадачах на Першым нацыянальным беларускім тэлеканале гэту самую мову ўсяляк абражае і выкарыстоўвае толькі ў пагардліва-знішчальным сэнсе?*

*Дык чаму ж мы дазваляем зневажаць нашых выбітных беларускіх пісьменнікаў, такіх, як Г. Бураўкін, Н. Гілевіч, В. Быкаў, і маўчым, калі іх па радыё ("Разговор по существу") ды па тэлебачанні ("Тайныя спружыны палітыкі") паказваюць як непатрэбных, нечытаных і непаважаных людзей?*

***Н. Курляндчык,***
***І. Федарцова.***

НАША СЛОВА № 33 (521) 15 ЖНІЎНЯ 2001 г. Дзядзінец 5

# Беларускі "РОКАШ"

У жніўні 2001 года на тэрыторыі былога СССР пачынаюць адзначаць шэраг датаў апошняга этапу існавання савецкай імперыі, які закончыўся Белавежскай пушчай. Сярод гэтых датаў ёсць адна амаль невядомая, магчыма малазначная, але даволі сімптаматычная. 23 жніўня 1991 года была забаронена беларуская газета "Рокаш". Гэта першая закрытая беларуская газета ў навейшай гісторыі. Да "Свабоды", "Навінаў" і інш. чарга яшчэ дойдзе, але тады закрылі "Рокаш".

"Рокаш" – газета Прыазёрскай гарадской рады ТБМ імя Ф. Скарыны (Джэзказганскай вобл. Каз. ССР). 4 ст. Фармат А-3. Першы нумар газеты выйшаў у жніўні 1990 года. Гэтаму спрыяў шэраг аб'ектыўных і суб'ектыўных фактараў, якія менавіта ў гэты час склаліся ва ўмовы, што прывялі да выдання газеты.

Беларускі нацыянальны рух у Казахстане фармаваўся на грунце традыцыйных беларускіх зямляцтваў. Такіх зямляцтваў было шмат, але фактычна толькі ў Алма-Аце і Прыазёрску яны набылі свядома-нацыянальныя формы.

Прыазёрск – гэта былы чыста вайсковы закрыты горад з насельніцтвам каля 60000 чалавек. Вайсковая частка, пра якую пойдзе гаворка – адна з многіх у Прыазёрскай залозе. Штаб яе знаходзіўся ў пустыні ў 120 км ад горада. Беларускае зямляцтва гэтай часткі ахоплівала каля 30 афіцэраў: беларусаў, выхадцаў з Беларусі і выпускнікоў Менскага ВІЗРВ, многія з якіх мелі жонак-беларусак. З прычыны сваёй нешматлікасці беларускае зямляцтва было больш згуртаваным, чым, скажам, украінскае, якое налічвала 70-80 чалавек. Згуртаванасць беларускага зямляцтва абумоўлівалася і тым, што многія беларусы ўжывалі па-за службай беларускую мову, а украінцы, калі і ведалі мову, то не ўжывалі ніяк.

Спрыяльная сітуацыя для перарастання зямляцтва ў нацыянальны рух склалася ў 1988 годзе, калі я, будучы яшчэ маёрам, быў прызначаны на вельмі высокую пасаду – начальніка аддзела ацэнкі, кантролю і аналізу стрэльб і праз працяжнік намесніка камандзіра часткі. Гэта была ўжо палкоўніцкая катэгорыя. У гэтым жа годзе я паступіў на завочны факультэт тады яшчэ Калінінскай акадэміі СПА імя Жукава Г. К. У гэтым жа годзе ў частку быў пераведзены ст.л-т Ігар Супаненка родам з Менска.

Маё прызначэнне на гэтую пасаду пацягнула шэраг іншых прызначэнняў. На былыя высокія пасады паступова пайшлі Іван Камароў з Заслаўя, Іван Ягораў з Гомеля, Міхаіл Бабушкін з Брянска, Леанід Лапо, Сяргей Міхалевіч з Менска, у частку прыйшло шмат маладых беларускіх афіцэраў. З Поўначы нашымі намаганнямі быў пераведзены Станіслаў Цвірка, з Ганцавіч, а ў вышэйшы штаб ад нас перайшоў Віктар Бычко з Іўя.

Акрамя таго ў Прыазёрск у штаб нашага злучэння быў пераведзены палкоўнік Генадзь Рубанаў, родны брат беларускага пісьменніка Уладзіслава Рубанава. Ён таксама меў з намі самыя найлепшыя стасункі.

У тым жа 1988 годзе была ўстаноўлена сувязь з Калінінскім зямляцтвам, якое ўзначальваў палкоўнік Вікенці Чорны з Клецка, і ў якое ўваходзілі, як выкладчыкі акадэміі, так і слухачы.

У тым жа 1988 годзе былі ўстаноўлены стасункі з Менскам. Мы атрымалі доступ да беларускай літаратуры новага часу. У Менску мы апіраліся на Міколу Міхноўскага.

Першай акцыяй стаўся збор подпісаў за дзяржаўнасць беларускай мовы. Тады пад гэтым зваротам падпісаўся 21 афіцэр. Наш ліст быў надрукаваны ў двух газетах Беларусі і ўвайшоў у даклад Ніны Мазай Вярхоўнаму Савету БССР. Але пасля гэтага наступныя нашыя лісты і звароты ў Беларусі друкаваць перасталі. Узнікла пытанне пра ўласную газету.

На гэты момант у частцы змяніўся камандзір. Замест палкоўніка Гамава, які быў прызначаны начальнікам кафедры Калінінскай акадэміі, прыйшоў падпалкоўнік Віктар Палякоў, сам родам з Урала, дзе я перад Казахстанам адслужыў 6 гадоў, таму ў нейкай ступені таксама зямляк, але, галоўнае, ён быў сябрам Чорнага, а таму адразу заплюшчыў вочы на ўсе беларускія праблемы, што дало нам магчымасць актывізаваць працу.

Мой аддзел ужо на той час меў дастаткова моцную кампутурную базу. З прыходам у аддзел я вырашыў праблему кадраў. У аддзел быў пераведзены капітан Фелікс Хузяханаў, татарын з Таджыкістану, інжынер ад Бога, але які ніяк не ладзіў з тонкасцямі службы войскаў. Ён атрымаў маёрскую пасаду, кватэру на пляцоўцы і поўную магчымасць выціскаць з тэхнікі ўсё на што яна здольная. У аддзел быў забраны і адзіны ў частцы чысты матэматык ст. л-т Аляксандр Сінюкоў, рускі з Украіны. Асвойваць набор пасадзілі мал. с-та Лычака Вячаслава, украінца з Кіева. Мастаком, як паложана ў войску, быў прызначаны Ібраім Сейтасманаў, крымскі татарын з Узбекістану. Таму вяршыні Пагоні ў нас рэгулярна мелі азіяцкія твары, але гэта дробязь.

Сканера не было. Прынтар матрычны. Праграм вёрсткі не было. Але было жаданне.

У жніўні 1990 года была аддрукавана першая сотня асобнікаў "Рокаша". Назва "Рокаш" была прынята на конкурснай аснове з некалькіх, у тым ліку разглядалася і "Пагоня". "Рокаш" прымалі з разлікам, што і ў Беларусі мала хто толкам ведаў, як гэтае слова перакладаецца на расейскую мову. Таму што ў акадэмічных беларускіх слоўніках яго няма. Тут разлікі апраўдаліся. Ніхто з камандавання ні разу не папытаўся, што значыць слова "Рокаш". Гэта ўжо цяпер можна сказаць, што рокаш – гэта мяцеж, не бунт, не паўстанне, а мяцеж.

Над "Рокашам" у розны час працавалі Ігар Супаненка, Станіслаў Цвірка, Сяржук Пахучы, Віктар Грамадка з Мастоў. На наборы пасля звальнення Лычака сядзелі ўжо рускія жаўнеры: Андрэй Аўчыннікаў з Урала і Аляксей Мазураў з Паволжжа.

Пра выхад газеты ведалі ўсе, каму трэба: і асобы аддзел, і камандзіры аж да Масквы, але рэакцыя была нулявая. Ад першага нумару было ўстаноўлена правіла, што ў газеце не павінна быць слова "рускі". Мы пісалі пра беларускія справы. І сваіх праблемаў хапала.

Пасля выхаду мы разаслалі газету па вядомых нам адрасах, а неўзабаве пасыпаліся заяўкі і праз паўгода мы мелі мабыць да сотні сталых чытачоў і, нават, аўтараў.

У верасні 1990 года ў Прыазёрску мы адкрылі беларускую нядзельную школу. Тады гэтая з'ява была даволі новая. Нашая школа была першая і адзіная беларуская школа на абшарах СССР. За базу была ўзята школа "60-год Казахстана", дзе вучыліся мае сыны. Дазвол дырэктара мы атрымалі без праблем. Мы развесілі аб'явы. Алена Лабуда, жонка капітана Лабуды з Пружан і рэдактар мясцовай тэлестудыі арганізавала для мяне інтэрвю на мясцовым тэлеканале, і таму мы вучняў набралі без вялікіх праблем. Безумоўна, што дзецям не хацелася ісці ў школу яшчэ і ў нядзелю. Але тут ужо працавалі розныя фактары: ад трэба і абавязаны ведаць сваю мову, да цікавасці саміх заняткаў. Былі такія, як Алена Бязрукава, якая засвойвала ўсё беларускае з фанатызмам і праз паўтары гады ўжо пісала вершы па-беларуску.

Але і тыя, каго прымушалі хадзіць у школу бацькі усяроўна навучыліся і чытаць, і пісаць і ведалі асновы гісторыі. Менавіта, мы ў Прыазёрску першыя ўжылі тэрмін "беларусазнаўства", каб назваць прадмет, дзе давалі агульныя веды пра Беларусь.

У 1991 годзе у школцы было тры класы з агульнай колькасцю вучняў больш 40 чалавек. Усе выкладчыкі былі афіцэры. Старэйшы клас вёў я, сярэдні – Ігар Супаненка і малодшы – лейтэнант Маянскі, сам украінец, але родам з Гародні. Былі і тры-чатыры запасныя выкладчыкі: Цвірка, Грамадка, Пахучы і яшчэ лейтэнант з Гомеля, прозвішча нажаль ужо забылася. Дысцыпліна ў школе была высокая, асабліва ў Супаненкі, які па характару – службіст. Таму нашай дысцыпліне зайздросцілі штатныя настаўнікі гэтай школы, дзе практычна ўвесь калектыў быў жаночы, з жонак афіцэраў. З дапамогай Менскіх бібліятэк мы цалкам забяспечылі школу падручнікамі. У нас было ўсё. Мы прайходзілі за год праграму двух класаў.

Але блізілася 19-е жніўня 1991 года. У траўні мы завершылі навучальны год. У жніўні выйшаў 8-мы нумар "Рокаша". Газета выходзіла штомесяц, але былі пропускі ў сувязі з маімі частымі паездкамі ў акадэмію, ды іншымі праблемамі, як недахоп паперы, стужкі для прынтара, звычайнай калькі. Таму за год са жніўня па жнівень выйшла восем нумароў.

19 жніўня 1991 года быў панядзелак. У нашым аб'яднанні былі планавыя камандзірскія заняткі, на якіх павінны былі прысутнічаць наш камандзір, яго намеснікі і ўсе камандзіры падраздзяленняў. Паколькі час у Прыазёрску ад Масквы ссунуты на 3 ці 4 гадзіны, то заняткі паспяхова пачаліся. Камандзір базы палкоўнік Роменскі раздаў дзяжурныя нахлабучкі, каму паложана, і хто пад гарачую руку трапіў. Мабыць і яшчэ нечаму павучылі. Праз колькі гадзін ад пачатку зайходзіць начальнік палітаддзелу палкоўнік Замарый і гаворыць, што трэба ўсім перайсці ў іншы пакой, дзе ёсць тэлевізар. Тэлевізар цікавей за камандзіра, таму ўсе ахвотна перайшлі, а на экране – ГКЧП. Праслухалі паведамленне, здаецца, два разы.

Роменскі аддаў каманду тэрмінова выехаць у часткі. Нашыя 120 км на вайсковым транспарце – гэта 3-4 гадзіны дарогі. Я ехаў з Паляковым. Заскочылі ў горад. Я паспеў папярэдзіць жонку, што можа быць дрэнна. У прынцыпе яна сама ўсё разумела.

На пляцоўку прыехалі вечарам. А падзеі між тым развіваліся. Па лініі палітаддзелу паступіла каманда правесці мітынг ў падтрымку ГКЧП. За камандзіра заставаўся яго першы намеснік украінец палкоўнік Савянкоў. Той зшыхтаваў частку і абвясціў мітынг адкрытым. "Хто жадае выступіць? Ніхто? Тады мітынг закрыты. Разысціся". Далажыў: "Мітынг праведзены. Выступоўцаў не было".

Наступнай паступіла каманда апячатаць усе будынкі, асабліва з электроннай тэхнікай і зняць партрэты Гарбачова. Паколькі камандзіры падраздзяленняў былі яшчэ ў дарозе, то іх намеснікі, у прыватнасці за мяне заставаўся Іван Ягораў, выканалі каманду ўмерана. Да нашага прыезду ўсё было апячатана. Што рабіць далей. Ісці здымаць корпус з-пад ахоўы, каб зняць партрэт Гарбачова? А, заўтра паспеем. У начальніка 3-га аддзела Юры Крывашова яшчэ лепш. Адзін КП-за 5 км, адзін – за 20, адзін – за 40. З-за Гарбачова трэба цэлую ноч ездзіць. Ну што будзем рабіць? Юра выцягвае з-пад стала бутэльку спірту і спакойна кажа: "Давай урэжам. Заўтра будуць пытацца, дзе былі, скажам, былі п'яныя, не ведаем". У прынцыпе са спіртам так і паступілі, але сітуацыя прасцей не стала. Прывялі ў гатоўнасць ўсе радыёпрыёмнікі, лавілі, хто што можа. Асаблівую актыўнасць праявілі ўкраінцы. У капітана Мішкіна са Жданава быў магутны прыёмнік. Ён паспяхова вылавіў усе заходнія станцыі і асобна паклікаў мяне слухаць. Украінскім палкоўнікам яны не давяралі, і ўкраінская моладзь стаяла строга ў фарватары беларускага руху. Дзесьці пад раніцу даведаліся, што Ельцына ўжо некалькі танкаў. Трохі палягчала.

А ў гэты час на базе ў аўтароту з'явіўся сам начальнік палітаддзелу. Камандуе: "Зняць Гарбачова". Камандзір аўтароты, які з тыдзень таму агроб партыйнае спагнанне з-за нізкай дысцыпліны ў роце, сам падскочыў да сцяны, сарваў партрэт і давай ламаць яго на калена. Старшына крычыць: "Таварыш старшы лейтэнант, ён жа лічыцца!" "Чорт яго бяры, заплацім".

20 жніўня ў аўторак камандаванне базы палічыла за лепшае выехаць "у войскі" і явілася ў нашую частку для працягу заняткаў. Адпаведна заняткі ў навучальным корпусе, адпаведна партрэт Гарбачова вісіць. Усе маўчаць. Праходзіць аўторак. У Ельцына ўжо сур'ёзная перавага. У сераду сітуацыя, як быццам праясняецца. Аказваецца партрэт Гарбачова вісіць вельмі правільна.

Пад час перапынку ў занятках падходзіць да мяне начальнік сувязі базы маёр Рунчаў і кажа: "Суднік, я ж ведаю, што ты Гарбачова не зняў не з-за ідэйных пераканнняў, а па разгільдзяйству". "Затое назад вешаць не трэба, а аўтарота хай цяпер скідваецца, ды купляе новы партрэт".

Чацвер прайшоў ціха. У пятніцу паступае каманда мне прыбыць разам з камандзірам на падвядзенне вынікаў на базу. Раней мяне туды ніколі не клікалі. На ордэн не наслужыў, значыць будуць лаяць. За што? – пытанне не стаіць. Быў бы камандзір падраздзялення, а недахопы будуць.

(Заканчэнне на 7-й ст.)


" Жыве Беларусь !"

"...Біце у сэрцы іх, біце мячамі. Не давайце чужынцамі быць... " Максім Багдановіч

РОКАШ

N 9 Газета Прыазерскай гарадской рады Т Б М імя Францішка Скарыны ( Джэзказганскай вобл. Каз.С С Р ). лістапад 1991 г.

ШАНОУНЫЯ ЧЫТАЧЫ

Два месяцы газета " РОКАШ " не выходзіла у свет. Два месяцы была забаронена. На даны момант рэдакцыі удалося атрымаць неафіцыйны дазвол аднавіць выданне, і вось мы зноу вітаем вас, тых, каму не абыякавы лес нашай гаротнай, нашай занядбанай, нашай абняхаеннай Бацькаўшчыны.

Мы выказваем шчырую падзяку народнаму дэпутату Рэспублікі Беларусь Яугену Цумарову і народнаму дэпутату Казахскай ССР Паулу Атрушкевічу, а таксама адказнаму сакратару культурнага асяродка " Беларусь " у Алма-Аце Яугену Майсейчыку за дапамогу у аднауленні выдання газеты.

Мы аднауляем выданне " РОКАШа ", а гэта разам з тым азначае, што " дэмакратычныя " перамены у Савецкай Арміі " паспяхова завершаны", можна працаваць, як раней.

Рэдакцыя.

НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ.

Светлы дзень, светлы час. Незалежнасць
Лашчыць сэрцы, і душы, і лес.

ЗРАЗУМЕЦЬ, ПРЫНЯЦЬ, АЖЫЦЦЯВІЦЬ.

" Народ, які не хоча карміць свае войска, будзе карміць чужое". ( Напалеон Банапарт )

Як карміць чужыя войскі беларусы ведаюць добра, бо кармілі, і паілі, і дагаджалі войскам ледзь ці не усіх навакольных краін. Асаблівую гасціннасць даводзілася паказваць апошнія два стагоддзі, пачынаючы з часоу, калі ВКЛ страціла рэшткі самастойнасці. Хто толькі не таптау нашу зямлю, хто толькі не высмоктвау апошнія сокі з нашага народа: Расея, французы, зноу Расея, немцы, бальшавікі, палякі, бальшавікі, немцы і нарэшце апошні этап-Савецкія Узброеныя Сілы. Як відно, нахлебнікау было дастаткова. І выжывауся беларус, кідаючы у бяздонную прорву плен свавй працы, аддаючы ва усе гэтыя войскі сваіх дзяцей, атрымоуваючы назад ці паведамленне аб смерці, ці цынкавыя труны, ці калек. Лепшыя сыны Беларусі шмат разоу паУставалі, аддавалі свае сілы і жыцці, ішлі у выгнанне дзеля таго, каб Беларусь мела свабоду, мела уласнае войска, мела сапраудную незалежнасць і магла яе абараніць. Паустанні Тадэуша Касцюшкі і Кастуся Каліноускага, выбранецкія дывізіі і Асобны Атрад БНР Булак-Бала-

*"РОКАШ" № 9, лістапад 1991 г. На першай старонцы верш "Незалежнасць".*

# Беларускі "РОКАШ"

*(Заканчэнне. Пачатак на ст. 5.)*

Усё падвядзенне я прасядзеў у калідоры. Пасля заканчэння клічуць. За сталом – камандзір базы, з якім у мяне вельмі добрыя адносіны. Мы служылі з ім на Урале і ў розны час камандавалі адной батарэяй. Сам данскі казак, да якога нядаўна наведвалася дэлегацыя з Дона, з прапановай узначаліць казацкі рух; намеснік па авіяцыі ўкраінец палкоўнік Сцепаненка, які спіць і бачыць, як даць дзёру на Украіну, і такі даў адным з першых; начальнік палітаддзелу палкоўнік Замарый, таксама ўкраінец але з Баку, намеснік па ўзбраенню удмурт ці чуваш па нацыянальнасці, быў ціхі і нешкодны, таму прозвішча забылася, ну і мой камандзір рускі Палякоў.

На стале дассе на падпалкоўніка Судніка. Усе нумары "Рокаша". Усе выразкі з беларускіх газет, дзе пра нас пісалі. Хто збіраў, не вядома да гэтага часу, але, мабыць, свой братка-беларус.

Абвінавачванне ў нацыяналізме і распальванні антырускіх настрояў. Абвінавачваюць усе. На маім баку толькі рускі падпалкоўнік Палякоў.

Дассе паступіла яшчэ 19-га, але разбіраліся са мной толькі 23-га. Вось тут на абвінавачванне ў антырускіх настроях я і папрасіў іх знайсці слова "рускі" ў "Рокашы". Калі гэта не ўдалося, то найболып шчаслівы быў Палякоў. Ага, няма. На ўсякі выпадак начальнік базы палкоўнік Роменскі загадаў па камандзе падпалкоўніку Палякову выданне газеты "Рокаш" забараніць, што той мне і апавясціў тут жа. Так і адбылася гэтая забарона 23.08.1991 года.

Безумоўна, калі б ГКЧП перамог гэтай мілай гутаркі не было б. Гутарылі б іншыя і ў іншым месцы.

А 24-га ці 25-га жніўня Ельцын забараніў кампартыю. Ішлі разборкі з КДБ. Стала не да "Рокаша". Але войска служыла, забарона на выданне газеты дзейнічала.

Да нас пайшлі лісты з запытамі, чаму газета не выходзіць? "Рокаш" быў другой у свеце пасля "Нашага слова" газетай ТБМ. Мы рэкамендавалі сваім чытачам пісаць на імя камандзіра нашай часткі. Алма-аціцы Яўген Майсейчык і сённяшні казахскі сенатар Павел Атрушкевіч арганізавалі некалькі такіх лістоў. І вось аднойчы выклікае мяне Палякоў. Заходжу. Сядзіць чытае ліст. Пазглядзеў на мяне: "Ну ты даеш". А што такое?". "Ведаеш адкуль гэты ліст? З Якуціі. А што тут пішуць? Тут пішуць, што беларусы Аўстраліі хвалююцца, чаму не выходзіць "Рокаш". "Ну, значыць, хвалююцца".. "А мне што рабіць?". "Ну не я ж забараняў газету". Задумаўся Віктар Барысавіч і загадаў выклікаць начфіна. "Як мы можам узяць грошы з Судніка за тое, што ён на дзяржаўнай тэхніцы друкуе сваю газету?"

А начфін быў жук яшчэ той. Гэта ён сумеў усе партыйныя складкі што пад час ГКЧП тэрмінова здалі тыя афіцэры, якія не плацілі іх ужо па паўгода, не пералічыць па прызначэнню, а выдаў іх афіцэрскаму сходу. На гэтыя грошы былі куплены два відэамагнітафоны, на якіх потым круцілі парнафільмы. Палова цымусу ад тых фільмаў і заключалася ў тым, што круцяць іх на "партыйных" магнітафонах.

Таму начфін мог ведаць, што мая кандыдатура разглядаецца на пасаду першага намесніка камандзіра часткі, гэта значыць для яго непасрэднага камандзіра. А мо і не ведаў, але ён мудра адказаў што няма такога артыкула, каб браць грошы са свайго ж афіцэра. Магчыма, што ў той час такіх артыкулаў і не было. Малаверагодна, што і сёння яны ёсць, бо наўрад каб недзе сёння ў вайсковай частцы друкавалася грамадская газета.

Начфін быў абазваны бесталковым і адпраўлены з кабінета. "Ну і што будзем рабіць?" – пытае Палякоў – "А, давайце, як раней, я буду друкаваць, а Вы рабіць выгляд, што нічога не ведаеце". "Ідзі!"

У лістападзе 1991 года выйшаў 9-ты нумар "Рокаша". Апошні 15-ты нумар выйшаў у кастрычніку 1992-га года. У лістападзе я выехаў у Беларусь. Не стала таго, што зараз называецца адміністрацыйным рэсурсам. Не было каму мабілізаваць увесь гэты інтэрнацыянал на працу дзеля Беларусі. Неўзабаве і ўся нашая частка была расфармаваная.

Сёння можа падацца дзіўным, як такое магло быць у савецкім войску? Сам дзіўлюся. Але такія былі часы, такая была краіна, такія былі людзі. Каб гэтага ўсяго не было не ўпала б нам незалежнасць пераспелым яблыкам проста ў рукі.

*Станіслаў Суднік.*

## НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ

**(Верш напісаны 25. 10. 1991 года і надрукаваны ў лістападаўскім нумары "РОКАША". Да скону Саюзу заставаліся лічаныя дні.)**

Светлы дзень, светлы час. Незалежнасць
Лашчыць сэрцы, і душы, і лёс.
Светлы дзень, светлы час. Непазбежнасць
Нашай волі ідзе ад нябёс.

Мы акрылены светлай надзеяй
Нашых мараў штандары шумяць,
Нашых мрояў заранка ірдзее,
Нашых думак канём не дагнаць.

Мы паходнай святой непакоры
Разганяем бязвольнасці цвіль,
Мы ідзём на свабоды прасторы,
Мы выходзім са змроку магіл.

А навокал ваўкі з крумкачамі
Шчэраць зяпы на нашу зямлю,
Мой народ, ты з пустымі рукамі
Не адстоіш свабоду сваю.

Ты адкрытай мазольнай далонню
Мусіш толькі даваць і даваць,
Талент, хлеб і дзяцей у прадонне,
У нахабную прорву кідаць.

Дык пастаў ты далонь тую рубам,
А шчэ лепей заціснi ў кулак
Скрыгатні хоць затворам, хоць зубам
І прыпомні, што ты быў вояк.

Ад тваё ваяўнічае славы
Шмат дрыжалі і Захад, і Ўсход,
Ты -- нашчадак вялікай дзяржавы,
Мой забіты, гаротны народ.

Мы — сыны тваёй вечнага болю,
Мы паўсталі ў апошні мо раз,
Мы заплацім за волю сабою,
Ты вазьмі, ты вазьмі толькі нас.

Ты вазьмі нашу смеласць і сілу,
Нашай кроўю свой сцяг акрапі
І хай нашыя будуць магілы
Для цябе, як памежжа слупы.

Каб ніколі, ніколі, ніколі
Ты не мог больш назад адысці
Са святое дарогі да волі,
З найцяжэйшай дарогі ў жыцці.

*Станіслаў Суднік.*

А. Талерчык

# ЯК МІХАІЛ МУРАЎЁЎ ВЕШАЎ МІХАЛА ВАЛОВІЧА

## Крыж для героя

***Спартыўна-патрыятычная арганізацыя "Край" правяла ў вёсцы Парэчча Слонімскага раёна акцыю па аднаўленні каля мясцовай царквы крыжа памяці Міхала Валовіча. На крыжы – надпіс: "Ва ўшанаванне памяці беларускага паўстанца Міхала Валовіча (1806-1833) і ягоных паплечнікаў, якія ахвяравалі сваё жыццё ў барацьбе за вызваленне Беларусі ад расейскага царызму".***

***Пяціметровы жалезны крыж быў усталяваны 4 жніўня 2001 года, у 168-ую гадавіну смерці М.Валовіча. Паводле прэс-рэлізу арганізацыі, гэтая акцыя пачалася з урачыстага шэсця калоны з апранутых у камуфляж і чорныя бярэты 40 "краёўцаў". Падчас устаноўкі крыжа пад'ехала міліцэйская машына. Чацвёра міліцыянтаў паспрабавалі спыніць акцыю, але пасля размовы з удзельнікамі акцыі з'ехалі.***

***Наступнай жа ночу на загад мясцовых уладаў крыж быў вырваны з зямлі і кінуты. Але месцічы адразу паставілі яго на месца.***

***Гэта было не першае ўсталяванне крыжа ў памяць Міхала Валовіча. У леташнім лістападзе "Край" таксама паставіў яго блізу Парэцкай царквы, аднак праз месяц яго знеслі з ініцыятывы папа Уладзіміра Бобчыка.***

***Мар'ян Карымонт.***
***("Наша свабода", 10.08.2001 г.)***



М. Валовіч.

*У вядомага душыцеля беларускага народа графа Міхаіла Мураўёва было шмат мянушак. Апошняй мянушкай "людаеда" ахрысціў яго не хто-нібудзь, а ўнук Аляксандра Суворава, генерал-губернатар Санкт-Пецярбурга князь А.А. Сувораў. Гэта адбылося так: калі яму прапанавалі ў дзень імянін Мураўёва падпісаць адрас-віншаванне, ён адказаў: "Я людоедов не чествую".*

*Але да гэтага ён больш вядомы як "Мураўёў-вешальнік". У сваім артыкуле "Крывавая купель графа Мураўёва" гісторык Алесь Петрашкевіч упамінае, што граф Міхаіл Мураўёў атрымаў сваю мянушку "вешальніка" ў Горадні, пасля таго як ён павесіў аднаго з першых беларускіх рэвалюцыянераў-дэмакратаў Міхала Валовіча. У "Беларускай энцыклапедыі" Міхалу Валовічу прысвечаны сціплыя 33 радкі. Дык хто гэта такі Міхал Валовіч?*

Міхал Казіміравіч Валовіч нарадзіўся 18 чэрвеня 1806 года ў маёнтку Парэчча Слонімскага павету. Маёнтак Парэчча знаходзіўся ў адной вярсце ад вёскі Парэчча – маёй роднай вёскі. (Парэчча ўпамінаецца ў актавай кнізе Слонімскага земскага суда ў 1566 г.). У архівах Горадні, Вільні, Менска я сабраў вялікі матэрыял пра гэтага шляхетнага і мужнага патрыёта Беларусі.

Бацька, Казімір Валовіч, быў Слонімскім падкаморым і ўладальнікам маёнтка Парэчча, якому належалі навакольныя вёскі Парэчча, Задвор'е, Шкндры, Азарычы ды фальваркі Яловікі і Гарадышча. За маёнткам было 60 валок зямлі і 220 сялян пераважна грэка-каталіцкага (уніяцкага) веравызнання. Маці Мар'яна паходзіла з вядомага роду Фэлькерзамбаў. Было трое дзяцей. Пазней Мар'яна развялася з Казімірам і выйшла замуж за абшарніка Сціпана Мікульскага і пераехала разам са сваёю малодшаю дочкаю Паўлінаю жыць у яго маёнтак Стары Здзітаў Пружанскага павету. Старэйшая дачка Ганна выйшла замуж за маршалка ваўкавыскай павятовай шляхты Дамяніка Аскерку. Міхал атрымаў добрую адукацыю, спачатку ў Варшаве, а затым з 1822 па 1825 годы вучыўся ў Віленскім універсітэце. Курс гісторыі чытаў там будучы ідэйны кіраўнік польскіх дэмакратаў Іяхім Лелявель, які аказаў на яго вялікі ўплыў, а потым стаў яго сябрам.

Лістападаўскае паўстанне 1830 года, якое застала Міхала Валовіча ў бацькоўскім доме ў Парэччы, крута змяніла яго жыццёвы лёс.

Трэба адзначыць, што 1830 год быў вельмі напружаным у палітычным жыцці: пачалі трашчаць манархічныя рэжымы Еўропы. Чэрвеньскія выступленні французскага народа зрынулі дынастыю Бурбонаў. Неўзабаве дамагілася сваёй незалежнасці Бельгія. Мікалай I пачаў рыхтаваць войска да падтрымкі заходнееўрапейскіх манархаў і задушэння рэвалюцыйнага руху. Паўстанне, якое пачалося ў Варшаве 29 лістапада 1830 г. павінна было сарваць гэтае мерапрыемства. 18 снежня 1830 года польскі Сейм аб'явіў паўстанне ўсенародным з мэтай аднаўлення Рэчы Паспалітай у межах 1772 года. Расійскія войскі былі выгнаны з Польшчы аж за Нёман. 25 студзеня 1831 года польскі Сейм абвясціў Мікалая I і дынастыю Раманавых скінутымі з польскага трону.

Не адседжваліся і ў Вялікім княстве Літоўскім, ці Літве, як тады называлася Беларусь. У яе сталіцы Вільні быў створаны Цэнтральны камітэт па кіраўніцтву паўстаннем на тэрыторыі краю. У яго склад увайшлі: віленскі павятовы маршалак С. Шумскі, паэт А. Гарэцкі, прафесар В. Пяткевіч, Л. Замбрыцкі, Э. Ромер, Ю. Грабніцкі, Л. Рагальскі і паэт В. Поль. Камітэт наладзіў сувязь з Варшавай і з павятовымі камітэтамі, а кожны павет меў свайго прадстаўніка ў Вільні. Першапачаткова Цэнтральным камітэтам было вырашана пачаць агульнае паўстанне 10 снежня.

Паўстанцкі камітэт Слонімскага павету начале з Антонам Бронскім вылучыў сваім прадстаўніком Міхала Валовіча і накіраваў яго па палітычныя дырэктывы ў Вільню. Але Літва была яшчэ недастаткова падрыхтаваная да паўстання. Не хапала зброі, грошай і арганізаванасці. Таму Цэнтральны паўстанцкі камітэт накіраваў у Варшаву сваіх пасланцоў, каб узгадніць новую дату пачатку паўстання на Літве і атрымаць дапамогу зброяй. Такімі пасланцамі ў адказную і небяспечную вандроўку былі абраны Міхал Валовіч і Лявон Пржэцлаўскі, ураджэнец фальварка Львоўшчына Слонімскага павету.

Пасля каляд яны дабраліся да Варшавы і звярнуліся да Хлапіцкага, тагачаснага дыктатара Польшчы, з просьбаю аказаць ліцвінам вайсковую падтрымку, ці дапамагчы ўзбраеннем. "Не маю для вас ані гарматнага пораху, ані карабінаў, ані нават крэмніяў для стрэльбаў. Мне не галота да апалчэнцы патрэбныя, а рэгулярныя войскі", – быў адказ недальнабачнага дыктатара, які не падтрымліваў ідэю распаўсюджвання паўстання на беларускія землі.

*(Працяг у наст. нум.)*

# З Альдонкай удома? Ша!

Альдонка – гэта мая дачушка. Ёй дзевяць гадоў. калісьці я зрабіў памылку ды падарыў ёй плэер "Sony WM-FX251". Памылка была ў тым, што акрамя прайгравання касэтаў ёсць там яшчэ функцыя FM-радыё. А што такое FM-радыё ў Беларусі? Гэта, як сведчыў адзін тутэйшы рок-фэст, поўны Moscalization усёй краіны. Альдонка паслухала пару-тройку маіх касэт ("Крама", "Мясцовы час", "Ален"), а потым вырашыла сабе, што працей музыку лавіць на радыё, і пайшлі з FM-багны новыя куміры ў нашай беларускай сям'і – "На-на", "Рукі вверх", "Иванушки"... Я ўсё думаў, як вярнуць дзіцё да нармалёвага асэнсавання рэчаіснасці: мо на канцэрт "Belarusification" яе звадзіць? Але з афішы ягонай яна і вынесла такую думку: "Беларусы – гэта такія ж маскалі, толькі горшыя, бо сваё не шануюць". А мо на "Басовішча" разам з'ездзіць? Але замежныя дакументы на дзіцё цяжэй справіць, чым на дарослага.

І вось выбарчы марафон прынёс і ў музычным пытанні рэальны шанц выбару – на Дзень незалежнасці Беларусі, 27 ліпеня, каманда Сямёна Домаша і славутыя "БМAgroup" арганізавалі на сталічнай плошчы Бангалор узорны канцэрт беларускага року пад красамоўнай назвай "Дом наш – Беларусь". Нарэшце і мы з Альдонкай адчулі сябе, як дома, сярод сваіх, захопленых сваёй музыкай, сваімі песнямі, сваёй мовай.

Людзей сабралася тысячы 3-4. І хоць для мітынгаў гэтае месца не надта добрае, дык для рок-канцэрту апынулася надзвычай прыдатным: мы маглі адысціся да камерцыйных ятак і купіць якогасьці печыва ці "Пепсі-колы", нават не перапыняючы слухання. Пад музыку былі і танцы, і скокі, і гульні, і... збор аўтографаў ад самога Вячкі Кораня ці Алеся Памідорава. Дый з надвор'ем пашанцавала: цеплыня градусаў 25, а якраз паміж рэпетыцыяй і канцэртам (каля 17-й гадзіны) прайшоў лёгкі дваццаціхвілінны дождж, асвяжыўшы зямлю.

Дарэчы, тыя, хто прыйшоў раней і акурат трапіў на рэпетыцыю, мелі ўнікальны шанц убачыць славуты "Zet", як кажуць, unmusked. Цалкам. Дык нічога сабе хлопцы, Альдонцы спадабаліся. Асабліва той, што потым стаў Санта Клаўсам.

Зрэшты, пачынаў "Zet", а "Крама", якая сходу ракастурхала публіку сваімі гітамі духоўнага беларускага блюз-року – "Дай нам шанец", "Што дапаможа нам", "Светлы анёл". Нядзіва, што славуты "Nazareth" выбраў менавіта "Краму" сабе ў кампаньёны падчас беларускага турнэ. Дый Альдонка сходу пазнала знаёмыя паводле касэтаў гіты і нават падпявала.

А "Крама" ж – не проста супер-гурт, але і легенда. Вашкевіч спяваў яшчэ ў славутай "Бондзе". І вось на гэтым канцэрце "Крама" нагадала некалькі незабыўных гітаў "Бонды" – "Стэфка" і "Слуцкая брама".

Але гэта былі не ўсе "крамаўскія" сюрпрызы. Самы ўражальны з іх, бадай, беларускамоўны варыянт славутай "бітлаўскай" песні "Comc toqether": Пабудуем Дом наш – Беларусь.

Гэта было проста hiqhtidelity. Публіка каўбасілася ў гітовых рытмах не толькі ля сцэны, але і ўсім тусняком. Vivat, "Крама"! Vivat, Бангалор!

Паган-блэкавы "Зніч" пакуль яшчэ не так закрануў Альдонку, хоць гіты былі вартыя – "Чорны зніч", "Выпраўляла маці сына", "Ой дымна за дваром". І хоць па блэку Альдонка спяваць не магла ў свае 9 гадоў, але ў галіне танцаў "Хто вышэй падскочыць", абапіраючыся на бацькавы плечы, магла выйграць прыз. Шкада толькі, што "Зніч" зноў выступаў не поўным складам – без вакалісткі Наталлі Валынец.

Затое Алесь Таболіч, як і на "Басовішчы", паказаўся і са "Знічом", і са "Сплэнэтыкам". Клёва, што ў беларускамоўны рокрух лічаць за гонар упісацца і такія сталыя профі, як "Splenetic". Дый сапраўды досыць англа-расейскую чужыну жаваць, калі тут, як сказаў канадскі пісьменнік Кастусь Акула: "Беларусы, вас чакае зямля". І "Splenetic" дастойна адказаў яму песнямі "Дождж", "Куля ў тваёй галаве", "Што здарылася з табой?". Шкада, што мая Альдонка яшчэ не надта ўсведамляе сабе сутнасць хардкаравых сентэнцый ("спажывец – ахвяра масавай культуры"), але пад уплывам разгарачаных маладзёнаў і дзячат, захопленых беларускімі гітамі, яўна адчувала падсвядома, душой, што "ты памёр, калі чужая куля ў тваёй галаве".

Як толькі на сцэну выйшаў "дзядзька Санта Клаус", Альдонка пацягнула мяне бліжэй да сцэны. І, што цікава, адразу пазнала, што ў таткавай калекцыі такія песні ёсць (хоць яна рэдка слухае са мной кампакты на музычным цэнтры). Але "Zet" залабаў у той вечар не толькі "Гэй, славяне" (з прысвячэннем "Славянскаму базару"), не толькі "З Новым годам" (на што Альдонка слушна заўважыла, што яшчэ паўгода наперадзе), але і шмат новых песень, сярод якіх многія (у тым ліку і мая дачушка) аж падпявалі кінуліся мілагучную "Маю Айчыну".

Калі свой суровы цяжаляк з праграмы "Люстра" заваліў "Уліс", я хацеў было адвесці дачку на старое месца да дзядзькі Толі (Мяльгуя), але яна ўчапілася за парэнчы, маўляў, не замінай лавіць кайф. Вось вам і папса для дзяцей ды інтэлектуальная музыка для дарослых... Потым Альдонка распавядала мне, што найбольш яе ўразіў той суровы дзядзя ў капялюшы з гітарай. Дый Корань не мог не ўразіць, так спявала ягоная гітара ў стылістыцы індзі-рока. Гукі былі настолькі суровыя і перакана́чыя, што нібыта намотвалі слухача на нейкі шнэк, падпарадкоўваючы волю і свядомасць. Такіх уражанняў Альдона ніколі не адчувала ад "музычкі" Алсу ці "Рукі ўверх".

Славутая "NRM" распачала свой сэт гэткай жа славутай "Партызанкай", злі́ўшы шматтысячны натоўп слухачоў у адзіны арганізм. Дый "Дастала" ўсіх дастала да глыбіні душы. І з задавальненнем назіраю, што ў нашай нерытмічнай краіне расце новае еўрапейскае пакаленне, якое сходу ўліваецца ў песню, зухавата ловячы кожную ноту, кожнае слова, кожны гукавы нюанс. Дый якія зоркі з'явіліся! Як ім не падпяваць!

Калі пасля канцэрту шчыльныя шарэнгі маладняку пасунуліся з плошчы Бангалор у розныя бакі да прыпынкаў грамадскага транспарту, то тут, то там чуліся абрыўкі ўлюбёных песень. Нават мая Альдонка мармытала сабе пад нос:

*Калі мне будзе*
*горача ў лютым,*
*Калі мне будзе*
*ў ліпені халодна,*
*Калі ў натоўпе будзе*
*мне самотна,*
*Глядзі, не забывайся*
*на мяне –*
*Спявай мне песні*
*пра каханне.*

А дзядзя Толік (Мяльгуй) потым распавядаў мне, што і ў ягоным тралейбусе, які пайшоў на Захад, моладзь яшчэ спявала "Тры чарапахі", "Бамжы", "Мы жывем ня кепска", здзіўляючы і радуючы гараджан атмасферай прынамсі моўных пераменаў у гэтай краіне. Дый у нашым 33-м маршруце не сціхалі прынамсі гутаркі пра "NRM", "Ulis", "Краму"...

Прызнацца, калі на канцэрце я бачыў дзіцячыя самалёцікі з улётак "Мяняем дзве старыя касэты з блатнымі песнямі і таннай папсой на зорак беларускага року" або "Мяняем тры старыя кнігі з матэрыяламі з'езду на адну новую "Дзесяць стагоддзяў беларускай гісторыі " і г. д., я думаў, што гэта сваеасаблівы жарт маладых палітыкаў (АГП, БСДП, ХСС), але якраз назаўтра вакол плошчы Янкі Купалы ўжо курсавалі новыя беларускамоўныя тралейбусы задаволеных абменам маладзёнаў.

Гэтак і сапраўды неўзабаве пабудуем дом наш – Беларусь, каб не жыць гасцямі ў сваёй хаце.

*Вітаўт Мартыненка.*

## Давайце смяяцца па-беларуску

### ПАРАДА

Думаў
гледзячы у люстэрка
На сябе мужчына,
Чаму лысіна расце
Лепей, чым чупрына?

З-за яе над ім жартуюць
Хлопцы і дзяўчаты,
Што застаўся безвалосым,
Ці ж ён вінаваты?

Доктар памагчы таксама
У бядзе не змог.
Калі доктар тут бязсільны,
Хоць бы чорт памог.

Не паспеў ён чорта
ўспомніць
Як той тут ужо стаіць,
Хвастом круціць і нахабна
У твар яму глядзіць.

І кажа:
"Валасы як зберагчы,
Пэўна хочаш знаць,
Я скажу, але за гэта
Ты пярсцёнак мусіш даць".

Шкода рэчы дарагой,
Але што ж рабіць,
Вельмі ж хочацца мужчыне
З чубам добрым быць

Узяў пярсцёнак
чорт прысеў,
Сёрбае гарбату
I дае ён хвораму
Дзіўную параду.

"Валасы ,што засталіся
Дабрадзей мой ты збрывай
Палажы затым у слоік
І пад вечка закатай.

Такім чынам у шуфлядзе
Яны будуць век ляжаць
Пры нагодзе любавацца
Зможаш імі і часаць".

Пакуль гэтакай парадзе
Наш герой стаяў, дзівіўся,
Чорт з пярсцёнкам
з гікам знік,
Як скрозь зямлю
праваліўся.

Ёсць у байкі той мараль,
Хто ў чарцей
парады просіць,
Выклікае жарты, жаль,
І шкоду сам сабе наносіць

*Аляксандр Антончык.*

### АРАНДАТАР

Раніцою кожны дзень
Працаваць Фядос ідзе.
Працаваць жа ён аматар,
Ён – адзіны арандатар.

Ён на грошы з сваёй працы
Збудаваў сабе палацы,
А затым усім наўздзіў
"Мэрсэдэс" сабе купіў.

Стала зайздрасна суседзям,
Хочуць жыць
не горш за Федзю.
І аднойчы нейк на сходзе
Так сказаў сусед Валодзя:

- За арэнду трэба брацца...
- Але трэба папытацца
У Фядоса: Што? Як? Дзе? –
Адказаў сусед Мацей.

А за гутаркаю – далей –
Дэлегацыю абралі,
Да Фядоса ўсе пайшлі
І распытваць пачалі.

У адказ Фядос рагоча:
- Кожны жыць багата хоча.
Вось вы толькі на арэнду
Спадзяваліся дарэмна:

А ў мяне тут лад пайшоў,
Бо я ў полі скарб знайшоў,
А цяпер я за працэнты
Спраўлюся
з любой арэндай.

*Анатоль Гарачоў,*
*Іўеўскі р-н.*



Унікальны экспанат з'явіўся не так даўно ў экспазіцыі Дзятлаўскага гістарычнакраязнаўчага музея -- дубовы човен, які знайшоў краязнавец Вадзім Лакіза. Човен з дапамогай мясцовых школьнікаў быў адкапаны ў глеі ракі Шчара. Знаходка датуецца 15 - 16 стагоддзем.

**На здымку:** дубовы човен у экспазіцыі музея.

Фота Рамана Кабяка, БелТА.

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:* № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:* 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by

*Рэдакцыйная калегія:*
Вадзім Болбас, Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 13. 08. 2001 г.
Наклад 5050 асобнікаў. Замова № 1870.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 274 руб., 3 мес.- 822 руб.
*Кошт у розніцу:* 70 руб.